МАЛАДНЯК

КУЗЬМА ЧОРНЫ

# СРЭБРА ЖЫЦЬЦЯ

АПАВЯДАНЬНІ

№ 11

КУЗЬМА ЧОРНЫ

# СРЭБРА ЖЫЦЬЦЯ

АПАВЯДАНЬНІ



Выданьне ЦБ Маладняка
МЕНСК—1925

# Срэбра жыцьця

## I

Рыжая барада трасецца, у бакі ходзіць ад дробнага сьмеху.

— Гы, гы!.. Вучыць. Дзьмухні, кажа, на агонь—пячы ня будзе. От, зараз як дзьмухну за такую раду галавешкаю ў рыла, дык навучыш... Гы, Гы!..

І зморшчаны рогатам і гарачынёю адсоўваецца ад агню чырвоны, шырокі твар.

— Гэта·ж не агонь, а твая, дзядзька, уласная барада цябе гэтак смаліць...

— Гы, гы!..

Злавацць прабуе рыжы дзядзька, ды нічога ў яго ня выходзіць. І зноў ён рагоча. І ўсе з ім. Дрыжыць ад сьмеху яснае ад агню кола на зямлі.

— Гы, гы, гы!..

Трашчыць агонь сухімі суччамі. То расьсьцелецца нізка—прыпадзе да зямлі, то шыбане раскудлычанай галавой угору. Выхватвае з чорнага змроку чырвонае калясо дзядзькавага твару, разам з тварам—запэцканыя гразёю боты.

З боку бясформенная куча — пераблытаныя ногі, рукі і галовы, паднятыя калені, шырокія сьпіны.

Горш яшчэ моршчыцца дзядзька, пхае чорным сукам у боты:

— Т-ты, э-э!.. Т-ты! Боты адцягні ад твару, а то ў нос дае. Распусьціў свой дзёгаць ці ворваль перад самым носам, хоць сякеру вешай... Чым ты іх мажаш, чорт цябе ведае, гэтыя свае шкрэбалы?!

Каля агню паднімаецца галава. Пара насьмешлівых вачэй колюць мякка рыжага дзядзьку. Зноў чуваць стрыманы сьмех. Узьнімаюцца ўгору калені і боты паволі адпаўзаюць назад.

— Мікіта дзядзьку з ботаў у нос дух пусьціў!

— Сьвяты дух Мікіта распусьціў!

— Х-ха!

— Гы, гы!..

Між кустоў, баязьлівых, цёмна-дрыжачых, ходзіць рогат з дымам. Трасецца агонь, трасецца ноч. І здаецца ад рогату—пустадробнага трашчаць косьці ў суставах.

— Не пацягайся так, дзядзька,—на кускі разарвешся!

— Эх-х-г-х!..

Голас у дзядзькі шурпаты:

— Мікіта, глянь ты, адно, на зоры—за поўнач пераваліла?

— Пераваліла.

Вострым пахам махоркі цягне ад агню— клінок даўно брытай барады ўткнуўся ў зямлю, цыгарка—у жар.

— Г-гых!..

І трэснулі зноў косьці ў суставах.

Усхваціўся Мікіта, пашоў у кусты. Рыжы дзядзька за ім.

Абодва яны як-бы старшыя тут. Старшымі то іх ніхто ня ставіў, але вышла так, само зрабілася.

Бежанцы яны ўсе; дзесяць чалавек іх пры агні. Цэлы год яны разам. Тут яны тры тыдні блыталіся па прыгародных вёсках, касілі ў саўхозе атаву, жылі там у саломенай будцы за садам, пры рэчцы. А потым Мікіта з рыжым дзядзькам успомнілі пра леташнюю працу ў гэтым горадзе і павялі ўсіх на знаёмае месца.

— Ды хіба вы, таварыш, нас ня памятаеце,— гаварыў Мікіта загадчыку работ на чыгуначнай станцыі,—мы-ж тут месяцаў два летась былі, тую, вунь, горку скопвалі.

— А хто вас ведае,—гаварыў той,—у мяне за год тысяча вас пераварнецца. Што, я павінен памятаць кожнага ці што?!

— Ды як-жа нас забыць?—устаўляў слова дзядзька:—Мы-ж з Мікітам бадай што адны ўсе шпалы на пуці паразвозілі.

— З якім яшчэ Мікітам?

— Ну, а са мною,—весела абзываўся Мікіта, падступаючы бліжэй і тыкаючы пальцам сабе ў грудзі.

Уся яго высокая і тонкая фігура выяўляла ўпэўненасьць, што цяпер яго абавязкова прыпомняць.

— Колькі вас усіх?

— Дзесяць чалавек...

Цераз гадзіну яны сядзелі ў таварным вагоне і грызьлі хлеб з гуркамі, а к вечару зацягнуў іх паравік за дзесяць вёрст, на паўстанак. Вагон і астаўся ім прытулкам.

Кожную раніцу прывозілі ім некалькі вагонаў пяску, і днём высыпалі яны яго на дарогу. А сягоньня падвязьлі іх бліжэй да гораду, вёрст на пяць. Маленькі паравічок—„Кукушка“ сьмешна фыркнуў, засьвістаў нешта баявое і ўцёк у горад, зацягнуўшы за сабою іх вагон. І яны засталіся ў кустох, у дашчанай будцы.

Заўтра яны зробяць апошнюю працу і тады завязуць іх куды-небудзь іначай. Яны прывыклі да новых мясцоў, і куды іх не завязуць—ім усё роўна, цікава нават новае ўбачыць.

## II

Абшар зямлі—як мора, змрок і сьвет — як хвалі.

Дзень ідзе.

Паўзе з празрыстага поля.

За пяць вёрстаў—горад сонна абазваўся новаму дню. Зазваніла нешта жалезам і абарвалася, крыкнуў нехта хрыпла, сіплым стукам, кінуўся раптам угору і ўпаў.

Дрэмлюць кусты, тлее вугальле. Агонь пацягаецца ў перадсьмертнай млосьці, патухне і блісьне, патухне і блісьне. У кустох сьмяецца вада ранешнім сьмехам:

— Люг-бр-люг-бр...

Тухне агонь і дрэмлюць людзі.

Мікіце ня сьпіцца.

Шырокаплечая жыкетка яго рудзее сукном на граніцы кустоў і поля, пры цёмных рэйках дарогі. Гульліва памахваецца ў руцэ дубец бярозы. Глядзяць вочы цераз шэрань зямлі...

Апошняя праца і новае месца!

Нешта ёсьць у слабым адсьвеце новага дня, у няроўным абрысе гораду, за полем, у вострым паху асеньняга імху, у кустох, што прашло скрозь нутро ў Мікіты, адагнала ад яго сон і зьвязалася з гэтым.

Новае месца!

Цямнеюць на сьветла-жоўтай істужцы дарогі рэйкі, пашлі яны ў новае месца. Прападаюць яны на граніцы зямлі і неба. Там чуць відзен узгорак, і, здаецца, стаўшы на яго, убачыш усю зямлю.

Некалі, даўно, прырос быў моцна Мікіта да паласы зямлі і да аднэй хаты. Як адарвалі яго ад гэтага—быў ён як зьвязаны, адчуваў тое моцнае, што зьвязала, прыкавала яго. Раскавалі Мікіту час, новыя месцы, варункі жыцьця... Недзе далёка прапала для Мікіты паласа зямлі і старая ўласная хата, зьявілася ў яго да гэтага

абыякасьць. І часта, несьвядома для яго самога, зьяўляецца ў Мікіты прагнае жаданьне моцна прыпасьці да ўсяго таго, што ёсьць на зямлі, напоўніць усю зямлю істотаю сваёю, абхапіць усіх сваёю радасьцю існаваньня, усім сказаць аб ёй.

На кожным кроку зямлі ў жыцьці радасьць. Уваходзіць у Мікітавы грудзі пах сырое зямлі, прэлай ад імху ў кустох, золата падгніўшага лісьця.

Пранізаў пах Мікіту вясёлаю думкаю аб працы каля сырога пяску ў сонечны дзень.

Несьвядома для яго, недзе далей за думкаю, закалацілася ў ім нешта вялікае, глыбокае, падняло яно ўсю істоту над зямлёй, напоўніла вясёласьцю сьвядомасьць аб жыцьці.

Вольнаму чалавеку лёгка на зямлі!..

Сонны голас шурпата паўзе з-пад вогнішча праз кусты ў густую раніцу:

— Г-гэ, Мікіт-та-а!.. Дзе ты?!

Круглым каменем падаюць крокі, шморгаюцца па зямлі.

Разам з Мікітам вырастае шырокая фігура рыжага дзядзькі.

Трэ каравыя рукі ад нецярплівасьці дзядзька:

— Гых-ты! Апошняя праца...

Лазяць па кустох галасы:

— Уставай, ты, гэ-э!..

— Паднімайся, Кірыла!

„Уставай, падымайся, рабочы народ!..“

Песьня прарвала ціш раніцы, мотыў заскакаў над палянкай, расстаў у вільгаці.

### III

І вось няма ўжо нічога: стала зямля шэрай лапінай і ўцякае, стала неба імглою залатога сьвету і сыплецца—прападае, сыплецца—прападае. Усё некуды гіне. Ёсьць, астаецца й шырыцца-расьце рух цела, мокрая гарачыня ў ім і ў вачох—залатыя дарогі пяску з вагонаў. Скочваюцца гэтыя дарогі ручаінамі ўніз, захвацілі толькі сабой чалавечыя вочы і адны, адны ўвашлі ў іх людзі...

Людзі ў працы, поўны ёю.

На пярэднім вагоне дзядзькава барада зьлілася з золатам пяску, адзначае грудзі ад яго задзёртая ўгору камізэлька. За дзядзькам шыбка ходзяць вострыя Мікітавы плечы. На поўных вагонах—галавы й рукі, галавы й рукі—мятуся і ўзьлятаюць. Срэбра лапат—як сава на чырвані неба.

Галасы—як дзіцячая гульня:

— Ух!..

— Сы-с-сып!..

— Яшчэ раз, гоп!..

— Ш-шух. Хватай дошку ўверх!..

— Ух!..

Дзядзька рад. Адарваўшыся ад пяску, азірае ён ружовую асеньнюю раніцу і людзей. Раніца—

гулка-пустая, далёка-звонкая; людзі—сьмешна-вёрткія, поўны дзяцінным свавольлем.

Насьмешліва кладзе дзядзька руку на вочы, узіраецца ў задні вагон:

— Го-го, Кірыла, бяры, бяры-ы!..

— Бяру-у!..—далятае голас здалёк.

Пусьцеюць вагоны, саскакваюць людзі на зямлю. Задні вагон грануў іржавую песьню калёсамі: пхунулі яго па рэйках гуртом хлопцы...

З гораду чуваць звон і бразганьне. Загрымела жалезам за мостам, ухнула і пракацілася па бакавой пуціне.

Кірылаў голас ня мог дагнаць:

— Скоры пашоў!..

І толькі задні вагон цягніку зеленьню сьцяны блиснуў за гарой.

Нявіннай шуткай, насьмешліва, плывуць галасы:

— Хватай, дзядзька, бараду ў жменю ды давай—дагонім!..

— Ня слухай, не хватай бараду ў жменю—пальцы асмаліш!

— Язык высунь—скарэй дагоніш!

Ходзіць крык са сьмехам над зычнай зямлёю.

І раптам прапала буйная вясёласьць...

Апусьцелі вагоны, адышлі людзі ў кусты.

„Новага месца“ чакаюць...

Зноў трашчыць агонь, шыпіць на ім сала. Дым ядлаўцу кінуўся раптоўна за куст, вецер рвануўся і схмурніў дзень.

Думкі ў дзядзькі—як вада ў ціхай рэчцы:
„Вось тут я, на гэтым кавалку зямлі,—дома, у другім месцы буду вечарам—і там буду дома. Нічога ў мяне няма, што-б прыкавала мяне к аднаму, малому кавалку зямлі“.

І недзе, у пачуцьцёх, несьвядома для думкі, зьяўляецца:

„Значыць, усё, што на зямлі, мне роднае...“

Мікіта задрамаў у дашчанай будцы.

Хлопцы гудуць галасамі.

Вецер вужакай прапоўз па зямлі, зноў разганяць стаў хмары.

Наводшыбе ад усіх, сьпіною ў ядлоўцавы куст, Кірыла ўпёрся, повен радасна-вясёлай думкі-журбы. Вочы яго шырокія, уважлі проста ў поле. За пацямнеўшым іржышчам, на гары—горад, праткнуў неба камінамі-трубамі, вышкамі, зацягнуў яго густым дымам вугольным.

„Ці гэта дым, ці хмары“, думае Кірыла і ня думае, а адчувае.

Вецер сушыць на Кірыле пот, а вочы—на гары.

Чуваць чуць-чуць з гораду звонкі гул, пры горадзе на полі калышыцца нешта шэрае. Чуваць, як гранула песьня. Раптам апусьцілася прыпала к зямлі.

— Тр-р-рах!

І толькі дымок сіняй плёнкай закалыхаўся ды зноў бліснулі штыкі.

Горад мацней гудзе, калоціцца ўжо песьняй—музыкай жыцьця.

Кірыла апусьціў круглыя вочы, шапку ссунуў набок.

Напявае журботна весела:

Пад гарою й на гары,
Таўкуць кашу камары...

Усё нутро ў Кірылы сьпявае.

Радасны вецер асьцярожна бярэ песьню, пераносіць за кусты, на цёмнае іржышча і разьвязвае ў прасторы...

І ўзяло нешта Кірылу за сэрца.

Голас у яго звонкі, малады, чуваць далёка:

— Вось каб гармоню сюды, эх, ты ёст іх маліна!..

Лахматыя галавы падняліся пры агні. Мікіта сонны вылез з будкі.

„Гармоню куплю, абавязкова", сьпее ў Кірылы думка па дарозе к агню.

Дзядзька дзеліць пры агні печанае сала, трасе рыжай барадою...

Вецер перамог: хмары сышлі, і неба гульліва плюнула асеньняй зямлі золатам сьвету.

## IV

— Гэй, зьбірайся ў горад, праца на станцыі будзе!..

Сьвісток паравіка пабудзіў сонных, голас падняў на ногі.. Лезьлі ў вагон, сонна пацягваючыся яшчэ.

Дзень гас.

Стары, растрыбушаны вагон не пасьпяваў бегчы за жартаўлівым паравіком. І стагнаў іржавымі калёсамі і дном скрыпучую песьню-крык:

— Пачакай, пачакай!..

Быў гульлівы настрой у людзей у вагоне.

З пяць хвілін—пяць вёрстаў.

Горад.

Горад у вячэрнім змроку: запальваюцца агні, гудзе людзкі муравейнік. На станцыі бразгае жалеза, шыпіць і клякоча пара. Далей—гусьцей запоўнілі змрочнае неба дымам трубы-коміны. Сухая восень вечарам ухмыльнулася гораду.

І думае Мікіта:

— Эх, зямля! эх, горад! Жыцьцё ты маё вольнае. Сягоньня я тут, заўтра я там. Абшар ты мой вольны зямлі. Радасьць людзкога жыцьця, бясконцнае захапленьне існаваньня.

На станцыі будынкі глядзяць сур'ёзна. Міма іх калышыцца ў паветры цёмнаю чырваньню нешта шырокае. Гарохам сыплюцца дзеці, зьвіняць песьняй:

„Жура-жура-журавель!..“

Малы ззаду астаўся, выбіўся з радоў, у дзіцячым захапленьні забыў усё і бясконца цягне, порстка і падзіцячаму няроўна:

— Зюра-зюра-зюра-зюра-зюра...

Раптам зьмяла песьню капэля духавой музыкі...

Горад жыве і звоніць...

Эх, ты, радасьць людзкая!

Эх, жыцьцё—бяскрайныя хвалі ў душна-гарачы дзень!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Жалезны звон гораду ўздымаецца вышэй заводзкага дыму і падае на прастору вячэрняй зямлі...

# Мельнікі.

Берагі схаваліся ў змрочных туманах, і рэчка ў вясеньнім разьліве, як бурнае мора. Вада дрыжала пад ветрам, адлівала ад месяца срэбрам ды білася пад млыном буйнымі ўдарамі. Млын калаціўся, скрыпеў падлогаю ды гуў каменьнямі. Гул выбягаў за сьцены і тануў у шуме бурнай вады.

На дварэ было весела, а ў млыне было нудна.

Млын знадворку быў, як палахлівы злодзей: насупіўшыся пад старою страхою, ён хітра падморгваў адным сваім скупа асьвечаным вакенцам цёмным кустом у вадзе і ўсё баязьліва скрыпеў ды стукаў, слабы перад ракой. У сярэдзіне млын быў, як пыльная нара, у мучным пыле цёмна гарэлі пры сьцяне дзьве курныя лямпачкі, аганькі трасьліся ды ганялі палахлівыя цені з кутка ў куток.

І ад роўнага гулу каменьняў, і ад пылу, і ад цёмнага сьвету хацелася тут легчы ды заснуць у смак, пакуль ня сьціхнуць гусьці каменьні ды дзень не патушыць скупога агню.

Каля каменьняў, упёршыся кулакамі ў бокі, стаяў мельнік Нічыпар Курыла—чалавек грузны і тоўсты, з чырвоным аплыўшым тварам і доўгімі валасамі на чуць аблысеўшай галаве. Уся яго постаць выяўляла сабой грубую і дзікую сілу і здавалася, што, каб даў ён кулаком па гэтым камені, камень-бы раскалоўся—і стаў. Мельнік глядзеў, як круціліся каменьні, з самаўпэўненай усьмешкай праходзіў з кутка ў куток ды зноў станавіўся на адным месцы і думаў вясёлыя думы...

У цёмным кутку, на мяшкох жыта, спаў Кірылка—рабочы з саўхозу—шчуплы і рыжы чалавек, з рэдкаю пакудлычанаю бародкаю, у старым кажушку і ў вялікіх салдацкіх чараві- ках. Гэта была самая крайняя процілегласьць мельніку і постацьцю і голасам, толькі ў твары Кірылкі было нешта агульнае, нейкая думка, якая магла затаіцца сама ў сабе.

Цэлы дзень Кірылка перакідаўся словамі з мельнікам і гэтае нешта сваё вельмі яскрава выявілася ў гэтай гаворцы. У мельніка яно выяўлялася ў хітрым бляску вачэй і ва ўхмылцы так:

— Я то, брат, з табой гавару, але ты проці мяне нуль. Сябраваць-жа лішне з табою мне няма чаго.

У Кірылкі яно выявілася толькі ў частым мірганьні чырвоных вочак і яно гаварыла:— Сьпяваеш то ты добра, але няма вельмі ўжо

рахунку прыслухоўвацца тут да твае песьні. Пагавары трохі, пакуль я зьмялю ды адгэтуль паеду.

Гэта ўсё кінулася ў вочы сыну мельніка— хлапцу Міхасю. Ён часта падыходзіў да Кірылкі і загаварваў з ім...

Цяпер Кірылка, натупаўшыся за дзень у млыне, хроп у смак, працягнуўшы ногі на мяшку.

Мельнік абышоў каменьні, падумаў і вышаў на ганак. Сыры вецер дунуў яму вострым холадам у твар, заблытаўся ў валасох ды шмыгануў зьнячэўку за каўнер. А пасьля мацней загуў у полі. Зьлева ад ракі поле гінула ў сьветлым змроку ды сваім прасторам весела глядзела мельніку ў вочы.

Мельніку ня трэба было кашляць, але дзе было дзець сілу, якая прасілася на двор; хоцьбы крыкнуць, ды няма на каго і чаго І мельнік, кашлянуў:

— Гых, гых!..

Кашаль быў, як звон у вялікі чыгун, і далёка пашоў ён па ветры.

Было весела мельніку. За рэчкай хоць ляжала поле, адышоўшае цяпер ад яго пад усю вёску, але яшчэ частка хутара засталася, застаўся і млын. Млын захаваў за ім важнасьць і гонар. На гэтым трасучым ганку мельнік—важная асоба, як даўней дваранін. Ды гэта ўсё ня важна. Важна пачуцьцё, што тут старшы, што гаспадар...

Мельнік уташоў у млын і яшчэ паслухаў, як гудуць каменьні... Кірылка заварочаўся на мяшку.

— Эй, ты, э, уставай!—грунуў мельнік.

— Кажаце ўставаць? А чаго?

— Ну, як спаў?

Мельнік падышоў бліжэй. Кірылка падняўся і быў лахматы са сну і сьмешны ў цёмным кутку.

— Ідзі, муку выбірай; разаспаўся нешта ты, браце, сягоньня!

— От, паспаў трохі.

— Спаць—яно добра. Ваш брат, як я пагляджу, любіць усё жыцьцё праспаць. Скажы, ці баліць калі аб чым клопатам твая галава? Хіба вы людзі! Вы на гатовым, вамі арудуюць, а вы...

— А чорт яго ведае,—адказаў Кірылка, а сам падумаў: „Няхай ты згары, зноў з гаворкаю вяжацца".

— Я заўсёды стаяў цьвёрда на зямлі,—грымеў словамі мельнік,—гэта нічога, што ў мяне хутар адабралі, я ўсё-ж гаспадар сам сабе. Я калі тупну нагою, хоць можа ніхто не баіцца, але я ўсё-ж тупну.

Кірылка адчуваў, што мельніку няма чым хваліцца, што няма ў яго моцы і сілы тае, як даўней у жыцьці, і толькі гэта ўсяго, што млын у яго ў руках. Але й адчуваў яшчэ Кірілка, што

гэта ў мельніка ад сілы, ад здароўя гэтыя словы. Што трэба было яму пакрычаць, пасьпяваць ці раскалоць сукаватую калоду, а ён вылівае сілу ў грымучых словах. Кірылка маргаў вачыма, маўчаў, слухаў ды нічога ня памятаў з гаворкі мельніка.

А ў мельніка гуляла па твары сытая ўсьмешка і, адчуваючы яе, Кірылка жмурыўся ды апускаў вочы ўніз. І ўсё думаў ён, каб як гэта скарэй змалоць ды пайсьці дадому. Да дня яшчэ далёка. Ісьці прыдзецца змрочным ветраным полем.

Вецер будзе сьпяваць вясёлую песьню, зазіраць холадам у вочы, поле будзе шумець леташнім чорным быльнікам на межах, а гэта ўсё так прывычна Кірылку. І будзе яно любым пасьля кпінаў і насьмешак мельніка, глыбока захаваных у яго гаворцы і ва ўсёй яго постаці...

Кірылка пашоў выграбаць муку.

Задняя сьцяна трашчала ад ветру; чутно было, як кіпела вада, ды поле сьпявала радасныя песьні бурнай ночы. І ўяўлялася, што там, за гэтаю старою, пыльнай сьцяной, з неба, з-за рэдкіх хмар лінуліся на зямлю ручаіны яснага змроку, зьмяшаліся з белым туманам і загулялі ў дзіка вясёлых скоках па звонкай вадзе. Паплавы прытаіліся слухаць гэтую бурную мэлёдыю зыкаў, а поле адгукнулася роўнымі песьнямі. Усё-ж разам мела ў сабе, нават і ў сваёй вясёласьці, адзнакі глыбокай задумёнасьці. За

думёнасьці дзікай зямлі і кустоў, на якой і сярод якіх спрадвеку прывык лічыць сябе вялікай сілай здаровы мельнік—Нічыпар Курыла.

Думкі ў Кірылкі пачалі плысьці роўна аб полі, аб ветры, аб мяшкох з мукою, аб саўхозаўскіх плугох, якія трэба будзе заўтра памагаць кавалю правіць. І мянялася ўсё ў галаве павольна, як-бы ад пачуцьця, што жыцьцё будзе бясконца доўгім, яму канца-краю ня відаць, і яшчэ многа чаго зробіцца, многа перадумаецца. І ўсё, што будзе, ёсьць і робіцца—мае свае прычыны і законы.

Кірылкавы думкі разагнаў звонкі рогат на другім паверху млына. Кірылка пачуў голас мельнікавага хлапца, і яшчэ больш нечыя галасы загулі мацней, грануў зноў зычны рогат, а пасьля ўдвух хвацілі баявым мотывам:

Мельнік меле і пытлюе,
Адвярнецца й пацалуе,
Г'эх!

„Зноў, мусіць, ліха ім, пра мельнікава вясельле гавораць", падумаў Кірылка. „Там весялей".

— Скарэй-бы муку, выграблі,—сказаў сам сабе Кірылка.

— Што кажаш?!—грunуў мельнік, падыходзячы да Кірылкі.

— Нічога. Так сабе, мука, кажу, вельмі марудна выграбаецца.

— Хто табе не дае спрытней выграбаць?

— А хто мне можа перашкодзіць?!

Мельнік упёрся ў бакі кулакамі і пашоў зноў на ганак. Кірылка выграб муку й палез на гару к хлопцам. Было ў яго нецярплівае жаданьне слухаць і рагатаць ад вясёлых гаворак.

На версе хлопцы сядзелі на пустых мяшкох цеснаю кучаю. Было іх два—з вёскі з-за ракі, а трэці—Міхась. Хлопцы чакалі, каб хутчэй малоць, і гаварылі з Міхасём аб ім і яго бацьку.

Кірылка доўга міргаў вачыма перад імі, тупаў на адным месцы, пакуль сеў, і думаў, што з яго зараз-жа пачнуць сьмяяцца хлопцы. А тыя перавялі на яго вочы ды зноў загаварылі:

— Дык ён,—гаварыў Міхась павольна расстаўляючы словы,—як толькі пачнецца раніца, дык і пачынае сваю гаворку каля мяне. Ужо два тыдні дыхнуць не дае—усё ўгаварвае мяне ісьці ў прымы к Ільлюкевічу. Усё думае—мяне тым саб'е, што там хутар, як маёнтак.

— К Ільлюкевічу!?—умяшаўся Кірылка, а пасьля, засароміўшыся свайго пабабску танклявага голасу, сьціх і заміргаў вочкамі. А пасьля паківаў на бок галавою ды сам сабе з захапленьнем сказаў ціха:

— Гэта-ж у Ільлюкевіча адных авечак поўсотні будзе. Дурны, калі яшчэ не захоча ў прымы ісьці.

— А ты што?—запытаў Міхася вясёлы голас.

— А я нічога. Згарыць ён няхай з сваім Ільлюкевічам. Яму не патрэбен ні я, ні Ільлюкевічавы прымы, а толькі хоча ён збыць мяне

з дому, каб толькі не перашкодзіў ніхто яму зноў ажаніцца.

— І-і-і, чацьверты раз?!—ня выцерпеў Кірылка,—значыць, ён у сабе яшчэ сілу чуе. Вось, значыць, даўнейшыя людзі якія!..

— Ну, а цяперашнія?—са сьмехам запытаў адзін з хлапцоў.

— Што цяперашнія!—радасна адказаў Кірылка,—цяпер у трыццаць год ужо не чалавек, а смаркач. Нашто вам што, у мяне ёсьць кум каля Пясочнага, дык самая пара яму жыць, а ён дыхавічны й плюгавы... Была, значыць, такая справа. Паехаў ён, значыць, быў раз, у гэтае, а там якраз салдат перагэтае. Ну ён сюды туды, бачыць—ідзе к яму мундзер-ахвіцэр і гэтае...

— Ну, а як-жа ты?—запытаў голас у Міхася, ня слухаючы Кірылкі.

І Міхась пачаў гаварыць:

— А я думаю пакінуць бацькаўскі хутар, няхай ён праваліцца, няхай ён. Усё зьбірае, хоча ўвесь сьвет глынуць, а на чорта гэта чалавеку.

— Як то на чорта?—ня выцерпеў Кірылка.

— Чорт яго бяры з усім,—гаварыў Міхась,—думаць толькі аб тым увесь век, што ты бачыш на тры крокі вакол сябе, закапацца ў авечкі, ды складаць грошы чорт ведае на што і каму.

— Эх ты, мазюр,—сказаў сам сабе пад нос Кірылка:—дабраў розуму. Ужо ён нешта лепшае ўведаў!..

— Як толькі пачнецца дзень, дык і пачынаецца. Сам хоча, каб я быў, якім ён хоча, а між тым у прымы выпраўляе, каб не перашкаджаў яму. Ды яшчэ хоча мяне на свой капыл перарабіць, запісаўся я ў сельска-гаспадарчы гурток, а ён мяне за гэта, як іржа жалеза, точыць. На што табе, кажа, гэта?

І раптам павысіўся ў Міхася голас, стаў непазнаваемы. Адчулася ў ім глыбіня думак і пачуцьцяў, яшчэ няроўных, нявытрыманых:

— Гэта-ж пражыў я 20 год на сьвеце, тут на хутары ў бацькі, і ніколі ня было ў мяне здаваленьня. Бацька абставіў сябе кадушкамі жыта і, радасны на ўсё жыцьцё, сьмяецца над усім сьветам, а мне хоць-бы як вырвацца на той бок гэтых кадушак. Яшчэ зьяўляецца ў яго думка пачаць гандляваць коньмі.

— А дзе-ж ты дзенешся, калі пойдзеш ад бацькі?

— Зараз мяне возьмуць у армію,—панізіў голас Міхась,—гэта і будзе пачатак таму, што мяне адарве ад чортавага хутара. Гэта-ж увесь век так можа прайсьці ў вечных думках, як-бы гэта пабольш выцягнуць адусюль багацьця, як-бы гэта прыбраць к рукам усякага, хто табе на вочы пападзецца. Ды яшчэ як зьбяруцца ў доме да бацькі швагры ды кумы... Загэтым і ўцякаю заўсёды на вёску к людзям.

І раптам у Кірылкі шавяльнулася нешта ў грудзёх. Ад няпрывычкі думаць, думкі заблы-

таліся, толькі адчуў ён смутна, незразумела, што гэта-ж б'ецца нешта тут, як-бы ў няволі:

— Вось сьпяваюць ветры на палёх; па леташвінім іржышчы слаўна йсьці будзе дадому досьвіткам і будзе ўсё ў чалавека добра і радасна. А гэта тут-жа ходзіць чалавек, тое-ж самае слухае і бачыць, ды рвецца некуды. На аднэй зямлі нек усё пляцецца, блытаецца".

Тады Кірылка падняўся і захацеў гаварыць хлопцам аб тым, як ён ніколі нічога ня меў, а заўсёды весела й лёгка хадзіць яму і палявымі дарогамі, і кладкамі цераз рэчку. Не стаіць у яго кадушак дома з жытам, а ён тут весела меле; там яго ўсе ганяюць...

Але й словы ў Кірылкі зблыталіся, і ён сказаў хлопцам:

— Але-ж і вецер на двары ўсходжваецца. Гэта-ж гэтак сіберна сьцяна трашчыць. Мусіць, пачнуцца дажджы, цёпла вельмі-ж.

Пасьля пачуў голас Міхася:

— У арміі пагляджу сьвету й людзей...

— Ну, а ён такі праўда, з гэтаю Ганнаю, бацька твой?—пачуўся голас.

— Праўда. Наняў быў, значыць, у наймічкі, а гэта мяне ўжо выправіць к Ільлюкевічу хоча, а сам ажаніцца.

— От, браткі, мацак!—сказаў Кірылка.

У яго ўжо прашоў востры настрой і зьявіўся звычайны: сьмяяцца над усім сьмешным

і сумаваць перад усім сумным. А хутчэй усяго рабіць від, што ён гэтакі.

І разам зарагаталі хлопцы з Кірылкавых слоў. Ужо яны адчулі, што Міхась—хлапец іх, што калі ён прыдзе да іх у комсамольскую ячэйку, яны яго там шчыра спаткаюць. Зьявілася ў іх блізасьць да Міхася і як-бы вышаўшы з нейкага кутка, давіўшага іх цеменьню, ім стала зусім весела.

— Але Кірылка адразу зьмікіціў, што твой бацька мацак. Як гэта ты, Кірылка, гэтак усё пазнаеш, дзе што й да чаго! Лоўкі ты, Кірылка...

— А мне што,—адказаў трохі прыціхшы Кірылка,—маё дзела старана, я не мяшаюся ў чужыя справы. Я адно часам слова прыстаўлю. Я-ж кажу, маё дзела цялячае...

Мацней затрашчала сьцяна, і вецер прынёс аднекуль здалёк сабачы брэх ды галасы пеўняў. Кірылка зашпіліў каўнер і пашоў уніз да мельніка. Хлопцы пачалі спускацца за ім. Ужо ім зноў хацелася сьпяваць, жартаваць з мельнікам, або плысьці па бурнай рэчцы проці вады...

Усё таксама роўна ўнізе гулі каменьні, і мельнік, Нічыпар Курыла, узяўшыся ў бакі хадзіў і моцна стукаў ботамі па старой падлозе. Твар у яго быў зусім чырвоны і трохі прыпухшы пад вачыма,—мусіць, ён толькі што адагнаў ад сябе дрымоту. Пасьля ён стаў зноў над каменем і, як-бы думаючы нешта лёгкае, дры-

мотнае, глядзеў, як ён круціўся ды зьліваўся ў вачох у гладкае шэрае кола...

У млын прыбегла Ганна—круглая постаць і чорныя вочы. Ёй, мусіць, ня спалася дома або ўстала досьвіткам з празьмернай руплівасьці. Як гаспадыня, агледзела яна цёмныя куткі ў млыне, агледзела хутка ды загойдала станам, ідучы да каменьняў.

— Што ты дзядзька,—маргнуў адным вокам хлапец, стаўшы каля мельніка,—пахаваў тры жонкі ды бярэш чацьвертую?

— Ну, а што, бярэ бог, бяру й я.

І сам ухмыльнуўся мельнік, разам з рогатам хлапцоў.

Ганна вінавата глянула на ўсіх і паволі пашла на ганак.

— Як ты аб гэтым думаеш, Кірылка?—сказаў хлапец.

— Што ты ў мяне пытаеш, пытай у яго, маё дзела—старана.

І маргнуў Кірылка на мельніка, а мельнік ужо быў у дзьверах—выходзіў на ганак.

Міхась маўчаў на мяшкох.

Голас у Кірылкі стаў сьмялейшым, як-бы жартаўлівым трохі:

— Што ты, Міхась, думаеш тут. Табе—самы раз жаніцца, бачыш, бацька, якім казаком зрабіўся.

— Давай яму раду, давай, — зарагаталі хлопцы.

— А што думаеце,—апраўдваўся Кірылка,— Ільлюкевіча дачка—уг-га, дай божа на ўсякага добрага.

— А калі я яе ня люблю,—хмура махнуў рукою Міхась і сур'ёзна глянуў на хлапцоў.

— От, абы чалавек, я вам, браткі, скажу,— пачаў уваходзіць у ролю Кірылка,—як я быў маладым, дык, каб мне столькі здароўя, колькі я праўду кажу, што трафлялася часам, як той казаў...

Боўтнула моцна вада пад падлогай і перарвала Кірылкавы словы. А пасьля пачулася ціхая гаворка на ганку.

— Я яго выпраўлю ўсё роўна ў прымы, тады ўсё пойдзе як мае быць,—гаварыў мужчынскі голас.

— Дык неяк нядобра. Усё ж сын ён табе, а выходзіць, што ты зжываеш яго з роднага дому,—баязьліва сказала жанчына.

— Што там сын; я яго не таплю, на згубу, яго не вяду, а пускаю па чалавечай дарозе. Там-жа ў прымах будзе яму цэлы хутар, чаго яму яшчэ трэба. Я, што-б там ні было, даб'юся гэтага...

Тады Кірылка ўбачыў, што ўсе ў млыне чулі гэта. Ён з урачыстым выглядам глянуў на ўсіх, падняўшы многазначна палец угору, як-бы хочачы сказаць:

— Той чалавек, што на ганку, мае вялікую жыцьцёвую практыку. І ўсякага можа пусьціць па добрай дарозе.

А разам з тым і сабе зробіць выгаду.

— Выводзяцца цяпер гэткія лоўкія людзі,— сказаў ён, памаўчаўшы.

Тады падняўся з мяшкоў Міхась—пануры і цёмны ад змроку. Падышоў ён бліжэй да дзьвярэй і стаў.

І зноў загаварыў мужчына на ганку, ціха й рашуча:

— А там ён будзе на новым сваім хутары гаспадарыць і наш хутар і яго будзе адна гаспадарка. Разам будзе, як маёнтак, а запісаны будзе на дваіх. Вось тут і політыка. Выгаднае дзела...

Міхась, ківаючыся ў бакі, падышоў да хлапцоў, глянуў на Кірылку, як-бы шукаючы ў людзей спачуваньня ці дапамогі. Пасьля для нечага абышоў каменьне, рашуча пашоў на ганак.

— Няўжо ты, бацька, думаеш, што гэтак і будзе,—пачуўся голас Міхася, трохі заглушаны ветрам.

— А як-жа йначай можа быць,—ужо не сказаў, а грынуў словамі бацька.

— Усяк іначай, толькі ня гэтак!

— Толькі гэтак!

— Калі так, я сягоньня зусім пакідаю дом разам з тваімі хутарамі.

— Ня дуры галавы, блазан.

Голас у Міхася стаў раптоўна нэрвова-дрыжачым і праразьлівым:

— Ты ня дуры маю, хто табе даў права нада мною...

Кірылка радасна пацёр рукамі, на пальчыках скоранька пашоў к дзьверам і радасна азірнуўся на хлапцоў. Быў у яго такі выгляд, як-бы ён адчуваў перад сабою вялікую ўцеху, якая напоўніць усё жыцьцё бяскрайнаю лёгкасьцю й шчасьцем. Хлопцы спакойна пашлі за Кірылкам.

— Дык дзе ты дзенешся, каму ты патрэбен; думаеш, цябе там недзе чакаюць? Такіх гультаёў, як ты, цяпер хоць канавы масьці.

У голасе мельніка адчуваўся фаталістычны спакой чалавека, упэўненага ў тым, што толькі ён адзін гаворыць і робіць усё, як належыць.

— Я з табою больш гаварыць не хачу,— сказаў ужо штучна-спакойным голасам Міхась,— я ня буду з табою жыць, калі ты такі бацька.

— Дык што, я табе ня бацька? Ты чуеш, што я табе кажу?

— Сабака брэша, вецер носіць,—адказаў Міхась і пашоў з ганку.

Мельнік рвануўся наперад, схваціў Міхася за плечы і ўзвалок назад на ганак. Міхась ткнуў яго ў грудзі і абодвы замітусіліся на халодным і цёмным ганку. Хлопцы выскачылі на ганак, каб умяшацца, а Кірылка шмыгнуў назад у млын:

„Трэба быць у баку ад усяго, а то яшчэ ў гэтую кашу ўмяшаюць“, думаў ён, „маё дзела цялячае...“

— А божа-ж мой!—крыкнула на ганку жанчына і ўбегла ў млын.

Убачыўшы яе цёмную постаць, Кірылка палез на верх...

Хутка на ганку ўсё сьціхла. Міхась з хлапцамі пашлі ў сьветлы змрок раньняга досьвітку, а пад мельнікавымі нагамі цяжка заскрыпела старая падлога млына. Ён знашоў у цёмным кутку заплаканую Ганку і пачаў ціха з ёю гаварыць.

— Чаго гэта на ганку шум быў?—сказаў паціху Кірылка, сходзячы з гары.

— Чаму табе?!

— Так, маё дзела старана, я задрамаў быў трохі на версе, а пасьля чуў крык нейкі. Я думаў, са сну можа гэта што зламалася тут, ці якая іншая бяда, ды хутчэй давай злазіць на ніз—можа памагчы што, думаю сабе, трэба.

— Ідзі ты к...!—крыкнуў хмурна мельнік.

— Дзень нахапіўся скора,—адказаў Кірылка,—а вы чаго злуеце?

І пашоў выграбаць апошнюю муку. І стала зноў на душы ў яго спакойна і лёгка. Зноў прыпомніў ён саўхозаўскія плугі, сырыя межы на полі ды вецер над пустым полем.

Хутка выграб ён апошнюю муку, закруціў на шыі парваны шаль, кіўнуў мельніку галавою і пашоў у саўхоз па фурманку. І ўжо думаў, што мельнік вялікі практык у жыцьці.

„А Міхась?—зьявілася раптам новая думка.

— Ат, што галава, то розум,—сказаў ужо моцна Кірылка ў адказ на гэтую сваю думку і махнуў рукою.

А пасьля ўжо, узышоўшы на іржышча, несьвядома адчуў, што ў Міхася праўда. Хацеў гэта прапусьціць скрозь думкі, ды думкі зблыталіся. І ўжо ціха ішоў ды слухаў, як за ім шумела рака, а ў саўхозе скрыпеў калодзезь ды пеўні сьпявалі.

# У вёсцы.

Аж уся хата гудзіць ад мух, а на паліцы каля дзьвярэй бляшкамі блішчыць новая гармоня са званкамі. Паліца пад самай стольлю, а ўнізу, пры вакне, над столікам сагнуліся Сьцёпка і Раман—гоняць гвазды, цягаюць дратву: Зьмітру Настулінаму к вясельлю боты канчаюць. Галасы і ў Сьцёпкі і ў Рамана хрыпаватанклявыя ад вечнага сядзеньня над гэтым столікам, але вясёлыя:

— От, брат, абцас выходзіць, як шкло!..

— Ты яшчэ лакам трохі квацані.

— Я ўжо квацануў!..

А ў Сьцёпкавага бацькі голас зычны і шырокі, зусім малады:

— Не шкадуйце вы, адно, хлопцы, лаку, бо Зьмітрок Настулін—хлопец—уг-га! Дай божа ўсякаму добраму такога хлапца прычакаць... Я-ж кажу, хоць к вясельлю яму лаку не пашкадуйце на боты. Хэ-хэ-хэ!..

— Дзядзька Павал, але ідзеце, адно, глянь-це, што за боты выходзяць.

Гэта Раман узяў няскончаны бот, панёс к печы паказваць дзядзьку Паўлу. Вочы ў Рама-

на сьвецяцца глыбінёю шчырай вясёласьці ад таго, што вельмі-ж добра боты выходзяць. Барада ў Рамана чорная, маладая, ускудлычаная, а твар нейкі запэцканы, ці то потам, ці то чымнебудзь іншым—як у шаўца...

— Няхай-бы ты, Раман, пабрыўся,—падаў голас з печы дзядзька Павал,—малады чалавек, а барада, як дзяркач.

— Шаўцу па штату не паложана брыцца,—аджартаваўся Раман.

— Добра кажа, па штату не паложана, хы-хы-хы-хы!..

Рагоча дзядзька Павал зычна і весела, як малады, хоць год пяцьдзесят пяць, мусіць, мае. Чэша ў даўно нябрытых скіўцах, выцягвае з губ малюсенечкі недакурак, стараецца ўзяць кончыкамі пальцаў, каб не апячыся, і зусім камечыць губы...

Ён толькі што прыехаў з поля ды ўзьлез на печ супачыць—вясною на печы ня горача: вядома, якое там паліва—абы гаршчок закіпеў... На полі ён араў папар. На сярэдзіне йшло, як мае быць, а каля меж, дык хоць гвалт крычы, аж конь з скуры, небарак, вылазіў. Вядома, трава нейкая пазарастала, заўсёды так каля меж.

А на другі бок мяжы араў сусед Юрась Цераховіч. Ён прыпыніў быў каня ды гукнуў:

— Я чуў, сусед, што будзем, кажуць, усе хочуць, зямлю перамерваць, каб ня было, значыць, ні вузкіх палосак, ні меж гэткіх сіберных. Шырокапаласіцу ўводзіць будзем.

— А што думаеш, гэта любата будзе...

Конь грыз на дарожцы траву, махаў аблезлым хвастом, а ў вачох яго сьвяцілася бяздоньне дзіцячай нявіннасьці. І хацелася тады дзядзьку Паўлу прыгалубіць яго, худога, спрацаванага, зрэзанага пугаю ў гадзіну, калі плуг ня йдзе. А толькі падышоў, пагладзіў па тонкай шыі па лобе, дык падумаў аб перамеры зямлі...

— Межы ды пырнік, каб вас агонь папаліў,— сказаў ён моцна.

А як ехаў дадому, над балотам енчылі чайкі, ды пахла асакою ды вятрамі...

Эх, поле ты маё шырокае!..

Раман—сусед—шавец, і разам яны шыюць з Сьцёпкам.

— А дзе конь?

І голас Сьцёпкі выявіў гаспадарскую клапатлівасьць. А голас з печы сур'ёзны, з жартаўлівым агнём:

— А што, цяпер каня пільнавацца?! Вывеў я яго, значыць, на вуліцу, шалыгнуў пугаю па хвасьце—няхай ідзе ў стэп. Там-жа, уг-га, поўна Крапівішча коняй, дзеці ня пусьцяць, каб у Бушылава цягнуліся.

— Дзень добры!

З печы дзядзька Павал, а з-за стала Сьцёпка з Раманам глянулі ў бок дзьвярэй.

Прасунуўся ў хату з-за вушака чырвананосы твар, скрабянула аб парог крывая нага і

зьявілася постаць кульгавага дзяка Якіма Алтароўскага.

— Боты шыеце?

— Але.

— Каму-ж гэта так шліфуеце?

— Зьмітру Настулінаму.

— Ага, дык гэта к вясельлю, значыць!..

— А як вы, Якім Феафілавіч, ведаеце?

— Уга, я даўно ведаў!

— Сядайце, Якім Феафілавіч!

Якім Феафілавіч прысеў к сталу і густа дыхнуў хлопцам самагонным перагарам.

— Разгаўляліся, Якім Феафілавіч?

— Грэшным, знаеце, дзелам, трохі перагэтае, у славу божыю і ў здароўе наша.

Дзядзька Павал падаў голас з печы:

— А я таксама ў сьвяты дзень люблю трохі гэтае, але-ж даўно ўжо было гэтае дзела, бо трэба з полем упраўляцца, ледзьве сяўбу скончыў.

— А я не пачынаў, не канчаў. Цяпер я, як верабей, можна сказаць, пад страхою. Як пціца нябесная—ні сею, ні жну. Зямлі, значыць, не палагаецца мне цяпер, пакольві ў духоўных састаю... Парадкі...

І стаў голас у Якіма Феафілавіча пакрыўджаным.

— А хто яго ведае,—падаў голас дзядзька Павал.

Кінуў недакурак на зямлю і пачаў драмаць.

У вушох гуло ад мух, густа пахла новымі ботамі, ды яшчэ кіслым малаком нясло, а з-за вакна чуўся весёлы бабскі рогат і дзіцячы плач...

Дрымота адабрала думкі, у галаве ў дзядзькі Паўла стала рабіцца пустата. Трохі чулася, як недзе плюхала вада, і пачало ўяўляцца, што гэта бабы на дварэ бялізну палошчуць. Халодная вада сьцякае па белых руках і плюхае, а вакол гарланяць пеўні, кудахчуць куры ды шчабечуць вераб'і. А ўсё гэта глушыць ціхі голас кульгавага дзяка Якіма Алтароўскага:

— От дзень ды ноч і суткі ўпроч!..

— Чаму?—пытае са сьмехам Раман.

— Так, прыблізіцельна. А ўсячаскі пустое!.. Ваабчэ!..

А пасьля раптам, як-бы ўцякла дрымота і ўявілася, што перамерваюць поле, выкарчоўваюць межы, робяць шырокія загоны, будуюць новыя хаты, праводзяць у хатах па дроце сьвятло, а худы, зьбіты конь, стаіць каля новых варот і, адвесіўшы губу, сьмяецца.

— Дзень ды ноч і суткі ўпроч,—скрозь дрымоту чуцен голас дзяка,—от так, дзень за днём, бліжэй к сьмерці... Чаму ня выпіць?.. Дык, кажаце, гармоня новая?..

— Тры тыдні як куплена,—адказвае Сьцёпка.

І гранула гармоня зыкамі, як нажом у гарбуз.

— Адчыні, адно, акно!..

Раптам голас Рамана стукнуўся ў столь песьняю:

Гэй на по-о-олі ў межа-а-ах
Быльнікі шумяць...

— Гэй, гэй, быльнікі шумяць,—гранулі галасы і моцна выявілі глыбіню чалавечых пачуцьцяў.

У полі сьпявае вецер, вечар прыпаў да зямлі, а кусты шэпчуцца з вясёлай вадою ракі. Ці гэта радасьць, ці смутак у палёх?!..

Гэта-ж гармонік памагае песьні...

— Гэй, р-р-раб'ята, валі! Раман, пачынай!

Гых, у градах табаку
Ляжыць малец на баку,
Эх!..

Галасы рвануліся ўшыр і ўверх, а гармонік грануў глыбіню вясёласьці.

І такая-ж буйная вясёласьць з радасьцю скінулі з дзядзькі Паўла дрымоту. На момант ускалыхнуліся адным жмутам пачуцьці і думкі. Матнулася ў іх роднае поле, абвеенае вятрамі, агорнутае сьцяною сьпелага жыта. Жыта, як боб, а коні на начлезе, як печы. А ў хаце душна ад ботаў, а сонца, як золата, над зямлёй. Эх, добра, што хоць жыву я на сьвеце...

І толькі шалыгнуў дзядзька Павал з печы, адно блiснуў пятамі, як уюн хвастом у дно саджалкі; стаў пасярод хаты, моцна на зьвяцістых нагах, ды ў захапленьні бязьмежным пачаў даваць махі хлапцом.

— Ня гэтак,—ускіпеў кульгавы дзяк Якім Алтароўскі,—ня гэтак, кажу; я, стала быць, на гэтым, на клірасе, зубы свае зьеў; ня толькі ўверх і ўніз трэба, а і ў бакі!..

— Пашоў ты з сваім крыласам!..

Пакрыўджаны Якім Феафілавіч адставіў крывую нагу ды пашоў па хаце дробным трапаком, выбіваючы такт рукамі пад песьню й гармонік, сапучы перагарам самагонкі першага адгону.

І толькі перапалоханыя мухі застукалі ў столь...

Так узмахнулася вясёласьць у людзей. У аднаго ад „дзень ды ноч і суткі ўпроч“, так што ўжо стала „мора па калені“, а ў другіх ад жыцьця, ад шырыні нязжытай жыцьцяздольнасьці...

Гаварылі зыкі, што ўсё тут у іх, а ня ў словах песьні; у тым усё тут, што выяўляюць зыкі. І як заціхла песьня, зноў грануў Сьцёпка на гармоніку нешта баявое так, што к хаце стаў зьбірацца народ.

# Ня пі густога чаю.

Загадчык рэгістратуры выступаючых і ўступаючых папер у нейкай установе—Барыс Іванавіч Цэнтразыхер выпіў два куфлі піва і ўжо хацеў ісьці з піўной, як раптам пачуў непадалёку недзе цікавую гаворку. І самае галоўнае, дык гэта тое, што галасы былі як-бы знаёмыя.

— У нашыя часы, Ферапонт Пятровіч,—чуўся недзе блізка хрыпла-густы і нізкі голас,—асоба ў гісторыі ніякай ролі ня грае і больш нічога я вам кажу...

— З якіх гэта часоў пачалося?—запытаў другі голас, скрыпуча-павольны і вялы, як тандэтная кілбаса.

— З якіх часоў гэта пачалося, точна вам указаць не магу, бо яшчэ пакуль што на занятках гуртка мы да гэтага не дашлі, але даволі таго, што я константую факт, які дамініруе над усім і загэтым тут ніякім сытуацыям думкі не павінна быць месца.

— Значыць, наколькі я асьмелюся думаць, тут інструкцыя такая вышла для няўхільнага правядзеньня ў жыцьцё.

— Чаго ня ведаю, таго не скажу.

— А пад якім нумарам інструкцыя была ў журнал заведзена?

—- Пачці што й ня помню... Эй, гражданін, давайце яшчэ па куфлі.

Барыс Іванавіч Цэнтразыхер, пачуўшы гаворку, высунуўся з-за стала, каб выглядзець, хто гэта ў піўной вядзе такую сталую размову. Для гэтага яму прышлося аглядзець некалькі бліжэйшых столікаў.

— Чорт яго ведае,—сказаў сам сабе Цэнтразыхер,—вось і пазнай тут, хто гаворыць, калі за кожным столікам усё такія, відаць, людзі, якія ня могуць вырашаць такія пытаньні.

Налева ад Цэнтразыхера, зусім блізка, сядзелі два рэпортэры мясцовай газэты і трымалі ў руках нейкія запісачкі.

— Вось гэта яны мусіць і гавораць,—падумаў Барыс Іванавіч і прыгнуўся ў іх бок, каб слухаць.

— А вам я, таварыш Пастрочны, магу даказаць,—гаварыў нэрвова і рашуча адзін рэпортэр. махаючы рукамі перад носам другога,—што з гэтай вашай заметачкі больш ня выйдзе, як дзесяць радкоў. Вы мне хоць кол на галаве чашэце, а я буду стаяць за сваё.

— Вы памыляецеся, таварыш Ганарарны,—апраўдваўся другі,—тут будзе, сама менш, пятнаццаць радкоў...

— А калі пусьціць яе на сем квадратаў, ды зрабіць чатыры абсацы,—ня ўнімаўся першы,—

дык гэтая ваша заметка страціць усякую цікавасьць...

„Ну, тут гавораць пра справы службовыя“, падумаў Барыс Іванавіч і перавёў вочы на другі столік. Там цэлай кампаніяй вырашалася пытаньне, дзе і як цяперашнім сьветам трэба шукаць жонку, каб яна была самаю настаяшчаю жонкаю, а ня ліха ведае чым.

„Ну, гэта народ дробны і адсталы“, падумаў Барыс Іванавіч, „яны аб ролі асобы ў гісторыі гаварыць ня будуць. Для іх гэта недаступна.“

І, падумаўшы так, перавёў вочы і вушы зусім направа. Там, пры самай сьцяне, было цемнавата і загэтым чалавечыя галовы зьліваліся з куфлямі піва і трудна было ўгадаць—ці то гэта там на адну голаў прыходзіцца дзесяць куфляў, ці на адзін куфель дзесяць галоў. Барыс Іванавіч прыслухаўся і, пачуўшы ўсяго некалькі галасоў, прышоў к пункту погляду, што там на аднаго чалавека прыходзіцца каля дзесяці куфляў.

— У нашы часы,—чуўся адтуль голас,—рыфма ў вершах ніякай ролі ня грае. Я неяк раз гаварыў з старшымі мэханікамі па гэтай часьці, дык яны мне гэтае самае сказалі. Так што ты, калі гэта сур'ёзна задумаў узяцца сьцішкі сачыняць, дык зьвярні на гэта ўвагу. Я табе раю, як прыяцель, які хоча табе дабра.

— Я гэта, братка, бачу,—пачуўся ціхі і нэрвовы голас.

— Ну,—махнуў рукою і ўсьміхнуўся Барыс Іванавіч,—не з маім становішчам па службе слухаць такія рэчы. Я чалавек практычны і сталы.

„Ну, значыць, так і не давядзецца, мусіць, даведацца, хто гэта пра гістарычныя тэмы гаворку разводзіў“, падумаў далей Цэнтразыхер „а цікава было-б пабачыць сталых людзей. Трэба было-б пазнаёміцца з імі“.

На ўсякі выпадак Барыс Іванавіч падняўся з свайго месца і акінуў вокам столікі далей. І раптам сеў, застыўшы на адным месцы. Проста перад ім, за другім столікам, сядзелі рэгістратары папер у яго аддзеле—рэгістратар уступаючых папер Ферапонт Пятровіч Чарнілюк і рэгістратар выступаючых папер Павал Крамінадавіч Чыстапіс—абодва пажылыя і сталыя мужчыны, з акуратна пастрыжанымі чыноўніцкімі бародкамі.

— От табе й раз,—сказаў сам сабе ціха Барыс Іванавіч,—вось з імі то мне якраз тут не хацелася-б сустракацца. Нявыгаднае дзела, калі аба мне сярод служачых пойдзе гаворка, што і я п'ю. На маім месцы трэба лепш усяго выяўляць сябе за чалавека сучасных поглядаў—за чалавека, які ня п'е, карт ня ведае, у бога ня верыць і ня любіць мяшчанства. А тут яны мяне якраз могуць за куфлямі ўгледзець, гэта проста, значыць, папаўся я перад людзьмі, якія ніжэй мяне стаяць. У старыя часы, калі я слу-

жыў у казённай палаце, ні разу не пападаўся, а гэта якраз папаўся. І перад кім, каб хто папытаў?! А тут, ліха на яго, і выйсьці няма як—якраз міма іх століка праходзіць прыдзецца. Трэба чакаць, пакуль яны першымі выйдуць.

Барыс Іванавіч адсунуў ад сябе куфлі, падпёр твар рукамі і пачаў супакойвацца.

„Добра, што хоць тут нейкі цемнаваты куток“, зьявілася ў яго радасная думка і ўжо зусім прапала ў яго цікавасьць да тае асобы, якая „ў нашы часы ў гісторыі ролі ня грае“.

---

— ...Але скажэце вы мне, Павал Крамінадавіч, нашто для нашага брата гэтыя гурткі ўведзены?—гарачыўся Ферапонт Пятровіч за куфлем піва, як-бы здаволены тым, што гаворка перашла ў спрэчку.—Ну для чаго, скажам, вы на гэтым самым гуртку вывучаеце, што ў нашы часы асоба ў гісторыі ролі ня грае?!. Ды я каму хочаце скажу, што для нас гэта ня мае жаднае моралі... І я зараз вам цьвёрдым аргумантам перагэтае думкі свае: ну, скажеце вы, Павал Крамінадавіч, на міласьць—ад таго, што асоба ў гісторыі пакінула ролю граць, вы паперы запісваеце ў журнал зьверху ўніз ці зьнізу ўверх? Парадак той самы, а загэтым для нас, скажам, рэгістратараў, гэтыя гурткі, з такімі пытаньнямі, маюць такую цану, як асоба ў гісторыі ці гісторыя ў асобе... Я гавару пра сябе, скажам...

Ад піва галава ў Ферапонта Пятровіча зьвесілася ўніз, намокшыя вусы пераблыталіся з барадою, а вочы зрабіліся, як мокры попел. Павал-жа Крамінадавіч яшчэ не падаваўся—усё абціраў хустачкаю пад носам, ды падпіраў леваю рукою бок.

— Што вы тут, Ферапонт Пятровіч, паніку наводзіце, — накінуўся ён на Чарнілюка, — з вас крытык усё роўна, як з нашага кур'ера марксысты. Нашто вам гаварыць аб тым, аб чым вы нічога ня ведаеце. Гурток патрэбен і должан быць!

— Але нашто?

— Аб гэтым можна й ня пытаць. Брыдка пытаць аб гэтым у нашы часы. Патрэбен дый усё тут!..

— Даўней, аднак, ніякіх гурткоў гэтых ня было, а паперы ў журнал яшчэ больш акуратна запісваліся, чым цяпер!..

— Што вы даўнейшае памінаеце?! Даўней гісторыя ў асобе, значыць, гэтае, а цяпер зусім іншае... Вам яшчэ, як бачу, трэба павучыцца?.

— А вы-б, Ферапонт Пятровіч, чым вучыць сталых людзей, адвучылі-б сваю жонку ад нясучасных мяшчанскіх прывычак...

Ферапонт Пятровіч раптоўна падняўся, растапырыў рукі і, трагічна паківаўшы галавою, уставіў свае вочы ў твар Паўла Крамінадавіча

— Калі ўжо справа дашла да жонкі,—закрычаў Чарнілюк, то я вам павінен сказаць, што як вы сабе ні перагэтае!..

І раптам змоўк Ферапонт Пятровіч Чарнілюк. Змоўк, а твар яго сабраўся ў змаршчакі, яшчэ больш пачырванеў, губы папрабавалі выявіць ухмылку, ды не маглі. І сеў Ферапонт Пятровіч, уткнуўшыся носам у стол.

— Што вы там такое ўгледзелі?—запытаў шэптам Павал Крамінадавіч.

Запытаў і падняўся, паглядзеў туды, куды глядзеў Ферапонт Пятровіч, і таксама сеў, прыціхшы.

Там, у цемнаватым кутку ўгледзелі яны нешта такое, што пачало зварачаць ім цьвярозасьць.

І Фарапонт Пятровіч Чарнілюк, і Павал Крамінадавіч Чыстапіс у кутку за столікам убачылі ўскудлачаную галаву і вастраносы твар Барыса Іванавіча Цэнтразыхера. Абодвы яны зараз-жа селі і, забыўшы асобу ў гісторыі і мяшчанскія погляды на жыцьцё жонкі аднаго з іх, зрабіліся вялікімі прыяцелямі адзін аднаму.

— От, каб яго агні сьпяклі!—загаварыў ціхенька Ферапонт Пятровіч, прыгнуўшыся да Паўла Крамінадавіча,—да таго шкода патрачанага часу і энэргіі, проста крыўднае дзела... Зьбіраўся, зьбіраўся, хадзіў-хадзіў на гэтыя сходы і раптам усе дуды аб зямлю.

— Чаму, што?—прашаптаў зусім ужо спалоханы Павал Крамінадавіч.

— Гэта-ж такая справа ў мяне выходзіць. Значыць пачаў прыглядацца да людзей, уваходзіць, думкамі і сьмякалкай у жыцьцё. ды адзін раз і гавару дома вечарам жонцы: „так і так— кажу, а ці не пачаць мне паступаць—кажу— у партыю. Дзякуй богу пара, час спакойны, цяпер самы раз паступаць; абы толькі як бог памог убіцца туды“.—А што ты думаеш,—адказвае мне жонка,—выгаднае дзела, тады зусім інакшы від будзем мець. „Вагу тады я буду ў сабе мець“, падумаў я. А тут якраз мой добры знаёмы канторшчык на жалезнай дарозе Гіцмаржовінскі гэтае самае задумаў, мне ўва ўсім прызнаўся і паехаў у Екацерынаслаў паступаць у партыю: дык мяне калі возьме яшчэ большая ахвота! „Ну—думаю—калі бог дасьць здароўе—неўзабаве буду ў партыі састаяць“. Зараз пачаў зарэкомэндоўваць сябе—сходы там усякія, скромнасьць, пашана да старшых, білеты сабе і жонцы на спэктакль, калі ён ставіцца на карысьць профсаюзаў, ды ці мала чаго. „Абы, адно, бог даў здароўе“, думаю сабе... А гэта якраз сягонешні вечар, каб ён згарэў, каб ён, усё сапсаваў—гэта-ж Барыс Іванавіч Цэнтразыхер сам таксама ў партыю хоча і, здаецца мне, што скарэй за мяне паступіць, а паступіўшы, мне ходу ня дасьць, бачыўшы мяне за куфлямі...

— Сьмякнеце вы і радуйцеся,—перабіў ціха і ў захапленьні Павал Крамінадавіч,—раскіньце розумам направа, раскіньце налева і ўразу-

мейце, што ён будзе маўчаць, як вады ў рот набраўшы.

— Чаму?!

— Чаму!?. Ды папытайце вы ў яго, чаго гэта ён тут сядзіць, у цёмны кут забраўшыся?!.

— Як я бачу,—загаварыў вялым голасам Ферапонт Пятровіч,—дык вы, Павал Кramінадавіч, хоць яшчэ трыццаць тры гады з палавінай запісвайце пад нумар паперы ў журнал, усё роўна будзеце тым, кім вы ёсьць. І перад тым, як пачынаць выказваць думку сваю, заўсёды падумайце. А то заўсёды ўзрадуеце гаворкаю, а пасьля гэтай радасьці горш яшчэ на душы робіцца, бо вашы словы—на ўзьвей вецер.

— Чаму?

— А таму што вы не падумалі аб тым, што тут ня толькі піва, а чаго хочаш дастанеш. І можа ён зусім не для піва сюды прышоў.

— Вы думаеце?—узрадваўся Павал Крамінадавіч,—калі так, дык тым пачай: калі ён скажам, настаяшчы напітак п'е, дык ручаю галавой, што слова нідзе не скажу, бо сам гэткі самы.

— Эх, Чыстапіс, Чыстапіс,—патрос галавою Чарнілюк,—служыце вы разам з ім у ваднэй установе, а ня можаце дадумацца, што ён можа тут калі-небудзь чай піць. Ну хто яму можа забараніць прыйсьці сюды шклянку, скажам, чаю выпіць? Паколькі я яшчэ ня згубіў розум, пастолькі бачыў яго толькі голаў, ніякіх-жа куфляў, ні шмуфляў каля яго ня бачыў.

— Ня бачылі?—устрывожыўся Павал Крамінадавіч,—няўжо каля яго куфляў няма; значыць, гатова быць няпрыемнасьць па службе. От увагнаў чорт мяне сягоньня сюды!

— А мяне?!

— Ну і вас!

— А ў яго такі, здаецца, відаць два куфлі,— радасна шапнуў Павал Крамінадавіч, прыгледзеўшыся.

— Ну?!—крыкнуў Ферапонт Пятровіч голасам, у якім было надзвычайна многа і радасьці і надзеі.

— Верна. Вунь нешта блішчыць, здаецца вуха ад куфля.

І яны ўдвох трохі прыпадняліся і пачалі прыглядацца на столік Цэнтразыхера.

---

„Прыглядаюцца, каб яны папруцянелі“, падумаў Барыс Іванавіч Цэнтразыхер, „от табе і прышоў, чорнага піва папрабаваў. Цяпер, сволачы, разьнясуць языкамі па ўсім сьвеце, што я вечарам па піўных цягаюся. Гэта-ж мяшчане чыстакроўнай крыві. Прападзе, ліха на яго, погляд на мяне, як на чалавека з сучаснымі поглядамі на жыцьцё. Горка жыць на сьвеце! Папрашу я, адно,—чаю, зьявілася ў яго думка, „ды так папрашу, нібы я цяпер гэта піў ня піва, а чай такі густы„.

— Гражданін!—гукнуў Цэнтразыхер,—дайце мне яшчэ чаю, ды не такога густога і ў шклянцы!

Гражданін абцёр рукі аб свой белы фартух прынёс чай.

— Чуеце вы,—загаварыў Ферапонт Пятровіч,—гэта-ж ён чай з куфля мусіць піў; і чаму гэта з куфля, чорт яго ведае. Няўжо гэта шклянак не хваціла? Давайце і мы сабе закажам чаю ў шклянках і закруцім яму галаву за мілую душу.

— Давайце!

— Эй, гражданін, нам таксама чаю ў шклянках, але густога.

Гражданін прынёс чай і трое людзей за двума столікамі пілі яго, радасна пaглядаючы адзін на аднаго і адсунуўшы ад сябе куфлі з астаткамі чорнага піва.

---

Праз поўгадзіны яны ўсе ўтрох папрыяцельску выходзілі з піўное.

— А я, ведаеце, чаго трохі сягоньня тут сьцебануў,—гаварыў выходзячы Барыс Івановіч,—маю прывычку хадзіць у піўную вечарамі чай піць.

— Гэтак сама і мы,—адказаў Ферапонт Пятровіч,—ішлі гэта мы з Паўлам Крамінадавічам міма дый рашылі зайсьці ў піўную чаю выпіць... Ну, выпілі гэта мы па куфлі чаю, а пасьля задумалі яшчэ па шклянцы выпіць... Ну, выпілі яшчэ па шклянцы, дый гэтае...

— Я таксама,—падаў голас Цэнтразыхер,—выпіў два куфлі чаю, а пасьля яшчэ шклянку...

Але вельмі нейкі чай тут густы падаюць, проста чорны, як дзёгаць. Ці то гэта можа ён ад таго такім здаецца, што ў куфлях!?

— А мне, каб вы ведалі,—сказаў Ферапонт Пятровіч,—профэсар забараніў густы чай піць, паколькі ў мяне, значыць, біцьцё сэрца і пляўрыт мазгоў. Так мне выразна й сказаў: ня пі ты, кажа, браце, густога чаю (мы з ім на ты). Але потым п'ю—не магу ўстрымацца, нутро прымае. Ну, бывайце здаровы, Барыс Іванавіч, і вы, Павал Крамінадавіч. Сягоньня яшчэ ня позна—пайду пачытаю трохі. Я, ведаеце, Барыс Іванавіч, цяпер палітычныя кнігі чытаю вечарамі—сьветагляд пашырыць трэба... Паколькі цяпер асоба ў гісторыі ролі ня грае, пастолькі, значыць, адным словам, і гэтае... Бывайце здаровы.

# З Ь М Е С Т

